Ніна Мацяш

# Адведзіны лета



Казка і вершы



Мінск
«Мастацкая літаратура»
2004

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-6
М 36

Мастак
*Тацяна ЦАРОВА*



Для малодшага школьнага ўзросту

Мацяш Н.
М36 Адведзіны лета. Казка, вершы: Для малод. шк. ўзросту/Ніна Мацяш; Маст. Т. Д. Царова.– Мн.: Маст. літ., 2004.– 32 с.: іл
ISBN 985-02-0693-4.

У кнізе пануе шчыры, яркі, жывы свет. Чытачы даэнаюцца, як ваджук пасеяў вадзяную грэчку, як сябравалі вожык і вужык, хто такая вухавёртка, пачуюць пра рэдкую птушку і многае іншае.

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4 Беи)-6



ISBN 985-02-0693-4



## ВАЛЯР'ЯН
(Казка)

Жылі-былі Валер і Ян —
Два хлопцы, два браты:
Прыгожы твар, і моцны стан,
І сэрца — з дабраты.

Ані паўзволі, ні знарок
Ніводнай жывіны,—
Хай ці мураш там, ці звярок,—
Не скрыўдзілі яны.

Хінуўся свет увесь да іх,
І шчырым быў давер,
Бо, як радню, любілі ўсіх
Браты Ян і Валер.

Да раны лекі прыкладуць,
Суцешаць у нудзе,
Не здрадзяць і не падвядуць,
Заступяцца ў бядзе.



Жыла ж была і ведзьма там
Касматая
і злая.
Што любасць дорыцца братам,
А ведзьму абмінае,

Не спала дваццаць шэсць начэй,
Піць не магла ні есці,
Усё гадала, як ямчэй
Братоў са свету звесці.

Сядзела, страшная, ў кутку
І штосьці мармытала...

А потым варыва ў гаршку
Шэсць ночаў гатавала.

Калі ж Валер і Ян звідна
Ішлі праз лес-балота,
Тым чорным варывам яна
На іх лінула ўпотай.

І —
хлопцы зніклі ўміг, ураз,
Як не жылі ніколі,
Адно парок паплыў і згас,
Растаў у хмызе, доле...

Тут наляцеў, нібы віхор,
На ведзьму лось рагаты

І забадаў, стаптаў, расцёр
З зямлёй яе ў адплату...

Даўно гэта было, даўным-даўно...
А ты калі ці бачыў, як на лузе
Ці ў лесе
кветцы нейкай аж да ног,
У пояс нізка кланяюцца людзі?

Высокі, бела-ружаваты квет,
Ад каранёў да плодзіка духмяны.
Ім раны зажыўляе цэлы свет.
Расце паскрозь.
А клічуць
ВАЛЯР'ЯНАМ.





## ВАЎЧАЯГАДА

Яшчэ наўкола пуста, гола,
Трава ледзь-ледзь бярэцца
ў рост,
Да ваўчаягады наўпрост
Ужо ляцяць чмялі ды пчолы,
На бэзава-ружовы квет:
Такі святочны ў лесе хвойным,
Такі духмяна-вабны, гойны
Ад сонечных цалункаў след.

Калыша голле ветрык ціхі...
Глядзіць і цешыцца ваўчыха,
Як ваўчаягада цвіце:
Удосталь ягад будзе ўлетку
На пірагі штодня і дзеткам,
І на частунак для гасцей!

## БЕЛАБРОВІКІ

«Тцэ-кук-кук! Тцэ-кук-кук!
Зусім Белабровік наш
адбіўся ад рук,
Дзень цэлы дзесь гойсае
па лесе яловым»,—
Скардзіцца мама,
супіць белыя бровы.

Але тата,
такі ж белабровы,
не строгі:
«А нашто ж яму крылы,
А нашто ж яму ногі,
Як не радавацца
і вучыцца жыццю?
Не крычы,
паспявайма лепш:
«І-цю-цю-цю...»

## НАЧНЫЯ СВЕЧКІ

Па бары да самай рэчкі
Паліць ноч «начныя свечкі».

Там гараць яны, бы ў залі,
Каб касулькі не зблукалі,

Ідучы да вадапою
Цёмнаю начной парою.

## ВУСАЧ-МАРОН-МІРОН

Клічуць мяне аддавён
І вусач, і марон, і мірон.

На мянушкі свае не сярдую,
А без чыстай вадзіцы бядую.

Я люблю перакаты, віры:
Не звядзіце мяне без пары!



## ВЯРБЛЮДКІ

Па пагалосках мы, вярблюдкі,
Страшэнна брыдкія няўклюдкі.

Што ж, непрыгожыя, затое
Ваюем пераможна з тлёю.

Нязграбныя, але не хлусім:
Сігае прэч ад нас і вусень.

У лесе шкоднікаў багата,
Паўсюль знішчаем іх зацята.

Зімовы бор і гай вясновы
Нам шчыра дзячаць за ахову.

Мяркуй, ці ісцівыя чуткі,
Што непрыгожыя вярблюдкі.



## ВОРЛІКІ

Ворлікі-лілейкі
Дружнаю семейкай
Зранку на паляначку
Выйшлі, як цыганачкі.

Стоўпіліся густа
У шаўковых хустах
Сініх, фіялавых,
Белых ды ружовых:

Арабінцы гожай
Долечку варожаць.

## ДАЛЕЙ АД БЯДЫ



— Буслік, Буслік, ты куды?
— Уцякаю ад бяды.

Жабіна малота
Гоніць прэч з балота:

Жабак, можа, з дзвесце —
Хочуць мяне з'есці!

Я ўжо сам не рады,
Што стаптаў ім грады...

## ГАРЫХВОСТКА І ПЛІСКА

Ляцела гарыхвостка
Паўз рэчкі нізка-нізка
І мімаволі хвостка
Хвастом хваснула пліску.

А тая з перапуду,
Што можа загарэцца,
Забыўшы пра прастуду,
Шукае рады ў рэчцы:
З бяжку ў ваду то дзюбку,
То хвосцік умачае.

— Ды супакойся, любка,—
Яе перапрашае
Сардэчна гарыхвостка,—
Мой хвост палае жарам,
Але не апякае ён,
Не чыніць ён пажару!



## ЛІСЧЫН КЛОПАТ

Ходзіць ліска па лужку,
Збірае лісіную асаку,
Хоча сплесці з яе рагожку,
Каб малым лісяняткам,
Забягаючы ў хатку,
Было аб што выцерці ножкі.



## ЧМЕЛЬ І БОЦІКІ

Сінеюць кветкі-боцікі
Ля зяблікавых лавак.
Хацеў прымерыць чмелік іх —
Ледзь выбраўся з халявак.

## КРАПІВА

Я не звер, я крапіва,
Я расту пад плотам.
Прамінацьмеш — абувай,
Калі ласка, боты,
Бо за босую нагу
Я цябе куснуць магу!

## БАЛОТНАЯ ЧАРАПАШКА

Чарапашка балотная
Застрайкавала:
Ходзіць галодная,
Хоць ежы — навалам.

На кожным ступку —
Вітамін зялёны,
Аднаго бабку́
У балоце — загоны.

— Чарапашка, чуй,
З'еш яго хоць троху...



— Бабку́ не хачу,
Хачу гароху!

# БУКВІЦА

Лез жучок
На сучок
І абдзёр каленькі.
Горка плача малючок,
Дыбае з кавенькай.

— Ды не мыйся ты слязьмі,—
Муравей гукае.—
Лепей буквіцу вазьмі,
Яна боль знімае.

А жучку смыліць-пячэ,
Аж сеў на карынку:
— Я ж не ведаю яшчэ
Ані літарынкі...

— Літары тут ні пры чым,—
Муравей смяецца.—
Хочаш ранку залячыць,
Шукай буквіцу ў карчы:
Зёлка так завецца.



## МЫШЫНЫ ГАРОШАК

Мышыны гарошак
Не мае ножак
І ручак не мае,
А луг вышывае:
Вусікамі
пачэпіцца за былінку –
Расхарошыць
ад нізу да верхавінкі
Прошваю сіне-ліловай:
Фарсуй абновай!



## БАГОЎКА



Што за кароўка такая? –
Не мукае, не рыкае,
З двума рожкамі,
а не бадаецца,
З шасцю ножкамі,
а не брыкаецца
І малака не дае,
Затое з вялікай ахвотаю
На пашу не ходзіць, а лётае,
Бо крылы ёсць у яе.
Пацеха, а не кароўка!
Як клічуць яе? –
Багоўка!



## КРЫВАСМОК-КРЫВАГОЙ

Мама з Ярынкай па лузе гуляе,
Мама Ярынцы паказвае зёлкі:
— Гэта чабор,
Вось герань лугавая.
Гэта званец.
Вунь мядунка ўся ў пчолках.

Гэты ж вось кусцік завуць крывасмокам.
Бачыш, галоўкі — бы кроў, пунсавеюць.
Во які вырас ён пышны, высокі.
Мноства хваробаў лячыць ён умее.

Кратае кусцік Ярынка чулліва,
Сэрцападобнае лісцейка лашчыць.
— Які ж крывасмок ён? Гэта несправядліва!
Навошта назвалі яго так лядашча?

Ён жа не смокча крыві, ён жа гоіць.
Давай будзем клікаць яго
КРЫВАГОЕМ!

## АЎДОТКА

«Цюрлі, цюрлі, цюрлі»,–
Нясецца ўвыш ад зямлі.

Хто гэта, голас чый
Журбуе так уначы?

Хто будзіць лугі, палі
Самотным «цюрлі, цюрлі»?

Ды гэта ж птушка аўдотка!
Жаліцца нам, сіротка,
Што знікла яе радня,
Цюрлікаціме да дня...

## ВАЛАВОКА

– Чэр-р, чэр-р, чэр-р,
Чэр-р, чэр-р, чэр-р,–
Чуецца навокал.–
Коце, зубак не шчэр,–
Кажа валавока.–
Я ў ламачча ўпаду,
Як малы арэшак,
І бяду адвяду,
І сяброў пацешу!



## ВАЛАСЯНКА

Зноў на флейце ад самага ранку
Грае ў садзе маім валасянка.

Ёй сястрычка захоплена ўторуе,—
Мо рыхтуюцца ў кансерваторыю?

## НА РЭЧЦЫ

Дзе промні
ступачкі гарачыя
Халодзяць мяккаю вадой,
Стракозы
з беленькіх гарлачыкаў
П'юць белы-белы сырадой.



## ЯСІКАВА ГОРА



Плача Ясь:
— Нешчаслівы я, мусіць:
То сляпак, то камар мяне ўкусіць.

А цяпер вось аса наляцела,
Ёй таксама кусацца карцела.

Завяду асаеда сабе,
Хай хоць восаў тых ён падзяўбе!

## БЛАКІТНІЦЫ

У шапачках з крэп-шоўку
На гожанькіх галоўках —
Хто ў белай, хто ў блакітнай —
Між вольхі ды ракіты
Блакітныя сінічкі —
Стрыечныя сястрычкі —
Шукалі аж да ночкі
Ў траве блакітнавочкі:
Бо як ісці без кветкі
На свята да суседкі?

## НА КІРМАШ

Па сцяжынцы слімачок
Цягне-валачэ дамок.

А ў дамку сядзіць камар,
Ён ахоўвае тавар:

Кропельку расіны
Ды нітку павуціны.

Некаму на кірмашы
Яны будуць да душы!

## ГРЭЧКАЛЮБЫ

Пайду пасяджу
На беразе рэчкі,
Там пасеяў вадажук
Вадзяную грэчку.

Між сасонкі вадзяной
Ды між вадакрасу
З вадажучыхай сваёй
Жнуць яе ўжо ўзасаб.

Панясуць яны дамоў
Ураджай багаты,
Наядуцца грачаноў
З вадзяной салатай.

## ВУХАВЁРТКА

Ад цяпер аж да аўторка
Злоснай будзе вухавёртка:

Подлы каларадскі жук
Выкульнуў ёй дзежку з рук!

Вухавёртцы аж карціць
Жуку вушы накруціць.

## ГАВАРУШКІ

Што скажу вам на вушка:
Я да жніўня хадзіў у адведзіны.
Там грыбы гаварушкі
Абступілі мяне колам ведзьміным.

Папрасіліся ў кошык,
Самі сталі ўсе ўголас прасіцца:
— Забяры нас, Сярожык,
Бо ўжо ў гэтай траве не сядзіцца.

Але будзь асцярожны,
Набірай нас у кош хоць пад дужку,
Ды не кожную можна
Ужываць-спажываць гаварушку...

Сніў я гэта ці мроіў?
Жнівень вяліў душанку на схіле...
Прызнаюся: са мною
Першы раз так грыбы гаманілі!





## ГЛАДЫШЫ

Світанкавая ціша
Абвестку піша:
«Каму трэба гладышы —
Калі ласка, ў камышы,
У мяшаныя ляскі
Ды на прыбалаткі:
Ёсць гладыш — клоп вадзяны,
Ёсць гладыш — расліна,
Вельмі файны грыб гладыш
Знойдзеш пад хваінай».

Чытае абвестку, думае мыш:
«Усё гэта добра, але ж
Ані ў водзін такі гладыш
Малака не нальеш».

## ДУБАНОС

— Дубаносе, дубаносе,
З вішанькі маёй акыш,
Бо дам дубчыкам па носе,
Калі прэч не паляціш!



І ў гайку, і на палетку
Пры ахвоце знойдзеш ты
Процьму іншага наедку:
І насенне, і плады.

Не хавайся пад галіну,
Годзе ягады дзяўбці,
На чаромху, на крушыну,
На бружмель у лес ляці.

Пасварыўся я з Ларыскай...
Ведаю, мая віна.
Занясу ёй вішань міску,
Мо даруе мне яна?

— Ты прабач,— скажу,— прабач.
Сумна без цябе, хоць плач.

Мы з'ямо тых вішань міску
І памірымся з Ларыскай.



## ВОЖЫК І ВУЖЫК

Пасябравалі
Вожык і Вужык,
Адзін без аднога
Сумуюць дужа.

І па харчы сабе
Ходзяць у пары,
І ў сонейку грэюцца разам,
І мараць.

Паглянь, як пад кусцікам
Вожыку Вужык
Нешта даверліва
Шэпча на вушка!

## АРЭХАЎКА

— Птушачка арэхаўка,
Чорныя ножкі,
Не ўвіхайся, пачакай,
Пагамонім трошкі.

— Няма часу, бач — нясу
Жолуд і арэшкі.
Пасадзіць прасіў барсук
Ля ягонай сцежкі.

Мара ёсць у барсука:
На сваім падворку
Гаспадыню сустракаць —
Панечку вавёрку.

Пасажу яму дубок
І аж тры ляшчыны,
Хай наладжае панок
Панне пагасціны!



## КРУЦІГАЛОЎКА

Не шыні, круцігалоўка мілая,
Не круці малой сваёй галоўкай!
Набірайся сілы перад выраем:
Аж у Афрыцы ж твая зімоўка.

Не пакрыўдзім, куечка стракатая,
Ні цябе, ні рупных тваіх дзетак.
Толькі зноў у гай за нашай хатаю
Прылятайце ўсе ды на ўсё лета.

Бо пакуль у голлі дрэваў чуецца
«Куй-куй-куй» незграбненькае ваша,
І ўвесь гай ад шкоднікаў ратуецца,
І пладоў паўнютка ў садзе нашым.



# КУЛОН

Кулона гэтага
Не носяць на грудзях:
Так рэдкую птушку
Мянуюць людзі.

Стракатае цела,
Дугою дзюба.
Толькі ў балоце
Жыць птушцы той люба.

Голас — бы ў флейты,
Безабаронны.
Нават варона
Палюе кулона.

Дасць Бог, не звядзецца
Палесся акраса,
Пачуеш і ты
Кулона-бакаса.

## ВЯЧЭРНІЦА

Бывай, бывай, вячэрніца,
Вандроўніца малая.
Ты руху шчыраверніца,
Жывеш і ў Гімалаях.

А ў нас, дзе парк густы-густы,
На клёне дуплаватым
Сваіх пагадавала ты
Крылатых мышанятаў.

Цяпер, як восень сцеле ліст,
Бы твая спінка, рыжы,
Вушастая, пад ветру свіст
Ляціш ты ў бок Парыжаў,

Дзе золкасці нясцерпніца
Не гэтакая злая.
Бывай, бывай, вячэрніца,
Вандроўніца малая!





## ПАСТУШОК



«Уіць-уіць»,—
у вярбовы свісток
Заіграў у куп'і пастушок.

Збоўтаў лапкай ваду ручая.
«Уіць-уіць! Гэй, пастушка мая,

Глянь, вячэрняя гасне зара.
Вырушаць у дарогу пара.

Кліч да гурту дзяцей, уіць-уіць!
Сівер хоча ручай наш зашкліць.

Каб мароз не заспеў тутка нас,
Выкіроўвацца час на Каўказ.

Цягам снежнай палескай зімы
Пасці зоркі ўжо там будзем мы.

А вясной, уіць-уіць, зноў сюды
Прывяду вас, да роднай вады,

Уіць-уіць, да гнязда з асакі,—
Згэтуль род жа ўвесь наш, пастушкі.

І пакуль будзем жыць, уіць-уіць,
Будзем край беларускі любіць.
Уіць-уіць, уіць-уіць, уіць-уіць!»

## ЗМЕСТ






Літаратурна-мастацкае выданне

**МАЦЯШ** Ніна Іосіфаўна

**АДВЕДЗІНЫ ЛЕТА**

*Казка і вершы*

Рэдактар *Н. В. Філіповіч*
Мастак *Т. Д. Царова*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Тэхнічны рэдактар *В. І. Барута*
Стылістычны рэдактар *А. М. Анцыповіч*

Падпісана да друку 24.02.04. Фармат 70х100 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Пецярбург.
Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 2,6. Улік.-выд. арк. 2,51. Тыраж 2000 экз. Заказ 184.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 28.11.2002.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.